








ГАРАДЗЕНШЧЫНУ ЧАКАЕ ВЫБУХ СНІДУ





# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА У 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

№ 48 (195) • 29 лістапада — 5 сьнежня 1996 г. • Кошт свабодны


## ТУТ СПАКАЙНЕЙ?

**Згодна атрыманай «ПАГОНЯЙ» неафіцыйнай інфармацыі, старшыня гарадзенскага аблвыканкаму Аляксандр Дубко адмовіўся ад прапановы заняць пасаду прэм'ер-міністра краіны.**

На просьбу карэспандэнта газеты пракаментаваць гэтую інфармацыю, памочнік старшыні аблвыканкаму Леанід Шанчук адказаў, што пацьвердзіць ці абвергнуць яе ня можа.

Нагадаем, што пасьля скандальнай адстаўкі Міхаіла Чыгіра, абавязкі кіраўніка ўраду часова выконвае Сяргей Лінг.

## АДРЭФЕРЭНДЗІЛІ

**Учора ў Горадні пачалася праца абласнога Савету. Да абеду дэпутаты працавалі ў пастаянных камісіях, а ў другой палове дня знаёміліся з жыцьцём прамысловых прадпрыемстваў гораду. Сёньня на сесіі народныя абраньнікі заслухалі іфармацыю аб працы прамысловасьці вобласьці, ~~справаздачу~~ упраўленьня гандлю, грамадзкага харчаваньня і спажывецкіх тавараў.**

А на чацьвёртага сьнежня запланаваная сесія гарадзкога Савету Горадні. Яго дэпутаты заслухаюць справаздачу кіраўніцтва гарвыканкаму аб працы ў 1996-м годзе.

## НА ВОЛЮ — ДАТЭРМІНОВА!

**Як вядома, беларускі парламант прыняў Закон аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы; прэзідэнт краіны падпісаў адпаведны указ. Адзінай на Гарадзеншчыне папраўча-працоўнай установай, адкуль датэрмінова будуць вызвалены асуджаныя, стане Ваўкавыская калонія.**

З больш чым трох тысяч чалавек, якія ўтрымліваюцца ў ёй, на волю выйдзе прыкладна кожны дзесяты. Гэта — своеасаблівае выйсьце са складанага фінансавага становішча. На ўтрыманьне аднаго зьняволенага сёньня выдзяляецца штодзённа 42 тысячы рублёў, з іх 11 тысяч — на харчаваньне. Грошай не хапае, і калонія мае шматлікія даўгі перад арганізацыямі, што забясьпечваюць яе неабходнымі таварамі.

## «ВМЕСТЕ ВЕСЕЛО ШАГАТЬ?»

**27 лістапада Нацыянальны банк Беларусі зарэгістраваў і выдаў ліцэнзію на ажыцьцяўленьне банкаўскіх аперацый «Белкамбанку», створанаму шляхам зьліцьця дзьвюх структур —«Брэсткамбанку» і «Комплексбанку». Па велічыні статутнага фонду, які перавышае 78 мільярадаў рублёў, новы банк займае трэцюю пазіцыю сярод беларускіх банкаў.**

Асаблівасьцю яго стварэньня зьяўляецца тое, што рашэньне аб'яднацца на добраахвотнай аснове было прынята двума раўназначнымі банкамі, у той час як ва ўсіх папярэдніх выпадках больш слабыя банкі далучаліся да больш моцных і фактычна «паглыналіся» імі.

Абодва аб'яднаныя банкі зарэгістраваны ў 1991 годзе і практычна адначасова атрымалі ліцэнзіі на правядзеньне валютных аперацый. Варта таксама адзначыць, што «Брэсткамбанк» першым у рэспубліцы увёў у абарот уласныя карткі, а «Комплексбанк» быў у ліку лідэраў на рынку новых відаў банкаўскіх паслуг, што аказваюцца насельніцтву.

## БАНДАРЛОГІ

**Малюнак з другой серыі славутага мультфільма «Маўглі»: удаў Каа, гіпнатызуючы позіркам нараду малпаў (бандарлогаў), прымушае іх саміх лезьці да яго ў пашчу. Наш дамарошчаны Лу-Каа правёў тое ж 24 лістапада з беларускім народам. І абсалютна ня важна, сфальсіфікаваў ён вынікі, ці не. Калі і сфальсіфікаваў, то ня сам жа ён кідаў фальшывыя бюлетэні ў скрынкі, ня сам гнаў людзей з інтэрнатаў на датэрміновае галасаваньне, ня сам «забіваў» усю прэсу агіткамі за яго Канстытуцыю. Гэта рабілі тысячы і мільёны людзей, якія, між іншым, таксама частка народу.**

Сёньня чалавек са здаровай псіхікай ня можа ўспрыняць вынікі рэферэндуму. Хай сабе Канстытуцыя. Народ прыняў Канстытуцыю фашысцкай дзяржавы, можна дапусьціць несьвядома, хаця і гэта ня так. Большасьць галасавала сьвядома, але не за Канстытуцыю, а за яе аўтара. Народ прагаласаваў супраць таго, каб выбіраць кіраўнікоў гораду, раёну. Больш прымальна, калі іх прызначаць зьверху. Народ ня хоча ведаць, куды ідуць яго грошы. Можа ён і хоча, але гэтага ня хоча «бацька», і ўсе з любові да бацькі зрабілі так, як захацеў ён. Пры гэтым, ніхто ня зьвязвае свой выбар са сваім лёсам. Ніхто не перажывае, што ён сам ці яго блізкі можа праз памылку быць расстраляны. Ніхто ня думае, што калі сыну ці дачцы давядзецца будавацца, то зямлі ім не прададуць, а ўсё будзе залежаць ад таго, як ты паклонішся чыноўніку. Народ пазбавіў сябе права патрабаваць выдачы зарплаты, права пажаліцца на высокія цэны. Кожны, хто гэта зробіць, можа быць абвінавачаны ў стварэньні сацыяльнай напружанасьці і г.д. Народ залез у пашчу свайму Каа. І зараз толькі ад яго залежыць, ці будзе ён глытаць, ці будзе жаваць. Адным словам -бандарлогі, і лёс бандарлогаў - іх наканаваньне.




## САМ САБЕ РЭЖЫСЁР

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў Закон "Аб рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 году ў Рэспубліцы Беларусь", прынятьі 26 лістапада 113 парламантарыямі, якія абвясьцілі сябе Вярхоўным Саветам. Закон пацьвярджае, што ў «Рэспубліцы Беларусь адбыўся абавязковы рэферэндум па праекце зьмяненьняў і дапаўненьняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь». Прэзідэнту сумесна з Вярхоўным Саветам, згодна з Законам, належыць прыняць неабходныя захады па рэалізацыі рашэньняў рэферэндуму. Апрача таго, гэтымі рашэньнямі неабходна кіравацца ў сваёй дзейнасьці дзяржаўным, грамадзкім і іншым органам і арганізацыям, службовым асобам, а таксама грамадзянам Рэспублікі Беларусь.

## ПІШЫЦЕ. І ВАС ПАЧУЮЦЬ?

**Учора старшыня Канстытуцыйнага Суду Валерый Ціхіня звярнуўся з лістом да Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і Старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага. Спасылаючыся на рашэньне КС ад 4 лістапада аб немагчымасьці правядзеньня абавязковага рэферэндуму па канстытуцыйных пытаньнях, а таксама на пастанову Вярхоўнага Савету ад 6 лістапада, якія прызначылі на абавязковы рэферэндум толькі пытаньні аб Дні незалежнасьці і аб выбарах кіраўнікоў мясцовых выканаўчых органаў, В.Ціхіня адзначае, што «вынікам рэферэндуму па пытаньнях зьмяненьня і дапаўненьня Канстытуцыі, насуперак патрабаваньням закону, нададзены абавязковы характар».**

Нагадаўшы заканадаўчыя нормы, якія дзейнічалі пры прызначэньні рэферэндуму, — артыкулы 7 і 129 Канстытуцыі, артыкул 30 Закону «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь», а таксама артыкул 10 Закону «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь», у адпаведнасьці з якім «заключэньні КС абавязковыя для выкананьня на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь усімі дзяржаўнымі органамі, прадпрыемствамі, арганізацыямі, службовымі асобамі і грамадзянамі», — кіраўнік Канстытуцыйнага Суду робіць вывад: «Такім чынам, усе дзяржаўныя органы і службовыя асобы Рэспублікі Беларусь пры ацэнцы вынікаў рэспубліканскага рэферэндуму, праведзенага 24 лістапада 1996 году, павінны кіравацца Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 4 лістапада 1996 году і Пастановай Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь ад 6 лістапада 1996 году».

## КАЛІ РАДЗІМА НЯ ДБАЕ ПРА СВАІХ СПАРТОЎЦАЎ...



**Беларусь - Грэцыя - 55:79**

Нягледзячы на абяцаньні правадыра славянскіх народаў вярнуць усіх беларускіх спартоўцаў на радзіму, нацыянальная баскетбольная дружына развальваецца на вачах. Год таму турнірныя справы ў адборачнай групе дазвалялі разьлічваць на месца ў фінале чэмпіянату Еўропы. Зараз у гэта могуць верыць толькі дзеці. Памяняў грамадзянства на расейскае лідар зборнай Валеры Дайнэка, а перад матчам з грэкамі Аляксандр Барысаў не далічыўся яшчэ трох гульцоў асновы. Усе яны не прыехалі толькі па адной прычыне - нестабільная палітычная сітуацыя ў Беларусі. Ігар Грышчук і Сяргей Жалудок вырашылі пакуль заставацца ў Польшчы, а Аляксандр Зыскуноў - у ЗША.

У такім становішчы наіўна было спадзявацца на посьпех у гульні з чацьвёртай па моцы камандай кантыненту. Толькі першыя хвіліны беларусы ўтрымлівалі хісткую раўнавагу - 7:7, пасьля госьці рушылі ў адрыў. Выявілася, што Клемезь, Кузьмін, Сьветнік элементарна не гатовыя гуляць на такім узроўні. Адзіны наш цэнтравы Сяргей Ткачэнка змагаўся як мог, але што ён мог зрабіць з легендарным Панаёцісам Фасуласам? Бадай, толькі Руслан Байдакоў (усяго на яго рахунку 23 ачкі) выглядаў прыстойна. Калі на сваім шчыце нашыя яшчэ нешта падбіралі, то на другім грэкі гаспадарылі абсалютна. Гарадзенец Уладзімір Шарко, выйшаўшы на пляцоўку, адразу вызначыўся трохачковым кідком, але чамусьці быў пасаджаны Барысавым на лаўку запасных і болей у гульні не зьяўляўся. А шкада, бо пара абаронцаў Шарко - Пынцікаў (ён здабыў 11 пунктаў) уяўлялася болей перспектыўнай. Перад перапынкам табло высьвечвала - 21:37. У другім тайме грэкі рабілі ўжо, што хацелі.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ РЭФЕРЭНДУМУ

Спыняецца Лідзкі дасьледны завод «Нёман». Пра гэта 25 лістапада кіраўніцтва завода паведаміла калектыву. Прычына банальная. Напярэдадні рэферэндуму завод працаваў на поўную загрузку. На склад адпраўлена прадукцыі на мільярды рублёў. Рэалізацыі ж як не было, так і няма. Абаротныя сродкі патрачаны. Сыравіна і энергія таксама. На рынку прадукцыя не канкурэнтназдольная, а сацыялізм неплацёжаздольны. Гуляй, электарат, пішы лісты «бацьку».

**Станіслаў СУДНІК.**

## КРОЎ ЗА ПРЭЗІДЭНТА

Крывавай драмай скончыўся дыспут аб правільнасьці курсу прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі паміж двума пасажырамі цягніка Марцінконіс-Горадня. Апошнім аргумантам у спрэчцы стаў нож. У выніку адзін з «апанентаў» апынуўся ў шпіталі, а другі - у міліцыі.

## ЁСЬЦЬ ШТО ХАВАЦЬ?

**Гарадзенская вертыкаль перакрывае «ПАГОНІ» ды іншым незалежным газетам доступ да афіцыйных крыніцаў інфармацыі.**

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам «ПАГОНІ» кіраўнік справамі гарвыканкаму Віктар Мікалайчык паведаміў, што мэрам гораду Анатолем Пашкевічам прынята рашэньне «даваць журналістам толькі тую інфармацыю, якую гарвыканкам палічыць патрэбнай».

Некалькі месяцаў без адказу ў аблвыканкаме ляжыць зварот «ПАГОНІ» з просьбай дазволіць для лепшага інфармаваньня насельніцтва выкарыстоўваць ужо падпісаныя і ўведзеныя ў дзеяньне афіцыйныя рашэньні абласной выканаўчай улады, якія датычаць сацыяльна-эканамічнага і палітычнага жыцьця вобласьці.

**Вітаўт РУДНІК.**

## ПРА «ТАРМАЗКІ» МОЖНА ЗАБЫВАЦЬ

**У папярэднім нумары «ПАГОНЯ» паведаміла, што ў школе N 36 з польскай мовай навучаньня ёсьць праблемы з арганізацыяй працы школьнай сталоўкі.**

- 20 лістапада гэтая праблема была вырашана, - гаворыць намесьнік мэра Горадні Яўген Жабрун. - Рашэньнем гарвыканкаму на набыцьцё тэхналагічнага абсталяваньня выдзелена 78 мільёнаў рублёў.

Па словах сп.Жабруна, ужо 2 сьнежня дзеці могуць ня браць з сабою «тармазкі» - будзе працаваць сталоўка.

## ГРАМАДЗКІМІ РАБОТАМІ ПА БЕСПРАЦОЎЮ

**У Ашмянах прынятае зьмеркаваньне абавязаць Цэнтр занятасьці сумесна з наймальнікамі са студзеня 1997 году арганізаваць правядзеньне аплочваемых грамадзкіх работаў.** Прадугледжана задзейнічаць такім чынам да 200 чалавек і галоўным чынам на вёсцы. Аплата па тарыфах калгасаў. Затрымкі з аплатай будуць, па ўсёй відавочнасьці, такімі ж, як і для калгасьнікаў.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ЦЁПЛАЯ ВАДА ДЛЯ АСТРАЎЦА РАСКОША

**Гэта далі зразумець жыхарам гарадзкога пасёлку Астравец мясцовыя камунальнікі. Цёплую ваду тут падаюць у кватэры толькі два дні на тыдзень - у пятніцу ды суботу з 11 да 23 гадзін.**

Камунальнікі тлумачаць такія свае (ня лепшыя - М.В.) адносіны да забесьпячэньня землякоў гарачай вадой тым, што паставўкі прыроднага газу ў райцэнтр абмежаваныя. Да таго ж, камунальнікі нясуць занадта вялікія выдаткі.

## ЗЬЯМО І ВЫСАКАРОДНЫХ

**Статак аленяў больш чым на 400 галоў быў да нядаўняга часу ў калгасе «Малахавічы», што ў Дзятлаўскім раёне. Алені гэтыя ня простыя, а высакародныя. З іх рогаў (пантаў) фармацэўты атрымліваюць каштоўныя лекі. І гадоўля высакародных аленяў ва ўмовах нашых шыротаў - справа выгодная. Гэта пацьвярджае досьвед многіх беларускіх гаспадарак.**

Але ў нашых аленяводаў штосьці дзесьці ня выйшла. Можа не знайшлі добрага пакупніка на нарыхтаваныя панты, а можа падстрахаваліся ў чаканьні суровай зімы, хто ведае... Тым ня менш, большасьць алянятаў адправілі на Гарадзенскі мясакамбінат, дзе перапрацавалі на мяса. Экзатычная для звычайнага пакупніка аляніна ўжо паступіла ў продаж на прылаўкі буйных менскіх універсамаў. Нават у сталіцы бяруць яе ня вельмі, бо для наданьня смаку гэтае мяса трэба марынаваць некалькі дзён. Да таго ж, аляніна больш цьвёрдая за сьвініну і ялавічыну. У гарадзенскія крамы яна не паступала.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

# КУЛЬТУРА

## «ПРЫХАДЗЕНЬ» ЗЬБІРАЕЦЦА Ў ФРАНЦЫЮ

**У Гарадзенскім абласным тэатры лялек завершана праца над сьпектаклем «Прыхадзень» паводле аднайменнага апавяданьня француза драматурга Макса Эйроля.**

Зазвычай празаічныя творы пад час сцэнічнага ўвасабленьня значна зьмяняюцца, і трэба шмат папрацаваць, каб захаваць іх ідэйна-эстэтычны сэнс. Аднак рэч у тым, што Макс Эйроль — рэжысёр і сцэнарыст тэатру «Экспрэсіён» у Ліможы — даволі «сцэнічны» аўтар, які ўмела стварае адпаведную атмасьферу.

Менавіта ўзнаўленьне таямнічай атмасьферы, а не выразны канфлікт пакладзена ў аснове ігры гарадзенскіх актораў. У невялічкую французкую вёсачку Сэнт Сірг нечакана прыязджае на люксусовым чорным самаходзе загадкавы незнаёмец у вялікім белым капелюшы і паведамляе мясцовым жыхарам, што ён умее ўваскрашаць памерлых. Зьдзіўленыя вяскоўцы накіроўваюцца з незнаёмцам на могілкі, каб упэўніцца ў ягоных здольнасьцях. Але, як высьвятляецца пазьней, ніхто ня хоча, каб памерлыя сваякі ды знаёмыя вярнуліся з іншасьвету. Кожны кіруецца ўласнымі эгаістычнымі інтарэсамі ды прыкрымі ўспамінамі. У рэшце рэшт загадкавы незнаёмец ветліва разьвітваецца з вяскоўцамі, сядае ў свой самаход ды зьнікае ў сьнежаньскай завеі.

У гэтым нэосімвалісцкім сьпектаклі граюць Мікола Андрэеў (ён жа рэжысёр), Віктар Шалкевіч, Іван Дабрук. Арыгінальную сцэнаграфію прапанаваў мастак Алесь Сураў. Прэм'ера сьпектаклю неўзабаве адбудзецца ў Гарадзенскім абласным тэатры лялек, а ў сакавіку наступнага году гарадзенскія акторы плануюць па запрашэньні французкіх калегаў наведаць Лімож.

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ.**



Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.

**На здымку: фрагмент сьпектаклю.**

## НАСУПЕРАК УСІМ ПЕРАШКОДАМ

**У сярэдзіне лістапада ў Горадні прайшоў міжнародны адукацыйны семінар «Што нас робіць рознымі, што нас аб'ядноўвае», арганізаваны Усебеларускай Нацыянальнай Радай маладзёжных і дзіцячых арганізацый і Гарадзенскай Асацыяцыяй маладых навукоўцаў «ВІТ».**

Вынікі семінару ў Горадні падвёў **старшыня праўленьня Асацыяцыі маладых навукоўцаў «ВІТ» Сяргей Салей:** «Пад час семінару за адным сталом нам давялося сабраць прадстаўнікоў практычна ўсіх дзеяздольных маладзёжных арганізацый Гарадзеншчыны - прысутнічалі сябры 21 арганізацыі. Гэта факт, які раней ня меў аналагаў. Да таго ж мы дамовіліся аб заснаваньні ініцыятыўнай групы па стварэньні на Гарадзеншчыне Рэгіянальнай Рады маладзёжных арганізацый (у аўторак адбылося першае паседжаньне аргкамітэту - В.Р.). Акрамя таго, пад час семінару былі дасягнутыя дамоўленасьці аб супрацоўніцтве Гарадзенскай філіі «Маладой грамады» з сацыял-дэмакратамі Бельгіі і Румыніі (у гэтай краіне ў наступным годзе запланаваны сумесны двухтыднёвы семінар), а таксама паміж Асацыяцыяй «ВІТ» і «Асацыяцыяй галандзкіх гісторыкаў».

Карэспандэнт «Пагоні» сустрэўся таксама з замежнымі ўдзельнікамі семінару і распытаў іх аб уражаньнях ад знаходжаньня ў Беларусі.

«Галоўная мэта нашага семінару, - гаворыць **Рыка ван Ітэ, прадстаўнік Нацыянальнай Рады маладзёжных арганізацый Галандыі «31»** (нумар тэлефоннага коду гэтай краіны), - пабудова адзінай Еўропы. З гэтай нагоды асноўную фінансавую падтрымку ў арганізацыі семінару аказаў маладзёжны дырэктарат Еўрапейскага Саюзу. Супрацоўніцтва нашай арганізацыі «31» і беларускай Рады - гэта першая спроба супрацоўніцтва паміж дзьвюма нацыянальнымі маладзёжнымі арганізацыямі. Мы добра ведаем пра цяжкую сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі і спадзяемся з дапамогай гэтага семінару хоць крыху гэтае становішча палепшыць».

**Ян Вос ( прадстаўнік Савету Еўрапейскіх нацыянальных Саветаў моладзі),** Галандыя: «Беларусь застаецца адзінай краінай, якая яшчэ не ўвайшла ў Раду Еўропы. Гэта стварае вялікія перашкоды для супрацоўніцтва паміж намі. Мяне таксама глыбока ўразіла сітуацыя са свабодай слова ў Беларусі. Я бачыў, як па беларускім тэлебачаньні гледачам паказвалі ўзор галасаваньня на рэферэндуме па праектах Канстытуцыі, закрэсьліваючы «супраць» прэзідэнцкаму праекту і «за» -парламанцкаму. Рада Еўропы расцаніла б гэты факт, мякка кажучы, як ня вельмі нейтральную падачу інфармацыі. У такіх умовах надзвычай важнай зьяўляецца праца незалежных газет. Пад час побыту ў Горадні я наведаў рэдакцыю адной з іх і быў уражаны, у якіх цяжкіх умовах журналістам даводзіцца здабываць і распаўсюджваць інфармацыю».

**Аляксандр Задарожны, Украінскі нацыянальны камітэт маладзёжных арганізацый:** «Мяне таксама непакоіць сітуацыя ў Беларусі. На Украіне таксама яшчэ ня самае дэмакратычнае грамадзтва, але такой аднабаковай падачы інфармацыі з боку дзяржаўных тэлебачаньня і газет, як і такога ціску на апазіцыйныя СМІ, няма».

**Вітаўт РУДНІК.**

## ПРЭС-КЛУБУ - ГОД

**1 сьнежня спаўняецца 1 год з моманту заснаваньня ў Горадні Маладзёжнага прэс-клубу.**

Асноўнай мэтай клубу зьяўляецца асьвятленьне ў мясцовых і рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі культурнага жыцьця моладзі праз сетку ўняштатных карэспандэнтаў і фотакарэспандэнтаў. За год дзейнасьці сябры клубу друкаваліся ў газетах «Пагоня», «Гродзенская праўда», «Молодёжный курьер», «Glos z-nad Niemna», «Переходный возраст», «Культура» ды іншых. Акрамя гэтага, моладзь, злучаная клубам, выдае сваю, пакуль яшчэ аматарскую газету «Творчы момант».

Пакуль Маладзёжны прэс-клуб зарэгістраваны пры Фондзе Ініцыятыў Маладзёжных Арганізацый, але сябры клубу рыхтуюца да самастойнай рэгістрацыі.

**Віталь НІКАНОВІЧ.**

## ЗАІСКРЫЦЦА ФАЛЬКЛОРНЫ АГМЕНЬ

**30 лістапада а 15-й гадзіне ў Палацы культуры хімікаў распачнецца III гарадзкі фестываль нацыянальных абрадаў.**

Абрадавы фальклор складае сапраўдную скарбонку культуры. Зьнітаваны з лёсам чалавека, ён нясе загадку будучыні. Народныя абрады і звычаі - гэта духоўныя традыцыі, якія адлюстроўваюць сьветаўспрыманьне чалавека, працяг яго асэнсаванага жыцьця ў пакаленьнях. Гэта цэлая сістэма дзеяньняў - урачыстых рытуалаў, варажбы, скіраваных на забесьпячэньне будучыні чалавека, своеасаблівы духоўны запавет продкаў, што гарантуе пераемнасьць.

Чарговы фальклорны фестываль, які ўжо традыцыйна ладзіць гарадзкі метадычны цэнтр аддзелу культуры гарвыканкаму сабраў сёлета, як ніколі, шырокае кола ўдзельнікаў. У першым адборачным туры свае абрадавыя міні-сьпектаклі прадставілі каля 30 калектываў. У фінале гледачы ўбачаць фальклорныя гурты са школаў N 1,3,5,9,19,21,25,35, школы-інтэрнату для дзяцей са слабым зрокам, ансамбль «Медуніца» заводу карданных валоў, польскі ансамбль песьні і танца «Лехіці» ды іншых. Праграма, мяркуецца, будзе складзена паводле сьвятаў каляндарнага цыклу.

**Л.МАЙНІЧ.**







**29 лістапада**

**1662 г.** Паблізу Вільні быў забіты Вінцэнт Гасеўскі, гетман польны, падскарбі ВКЛ. Вядомы перамогай пад Коўна над расейскім войскам генерала Даўгарукава (верасень 1658 г.)

**1830 г.** Пачалося нацыянальна-вызвольнае паўстаньне ў Польшчы, Летуве і на Беларусі (доўжылася да кастрычніка 1831 г.)

**1938 г.** Расстраляны Бранілаў Тарашкевіч, грамадзкі і палітычны дзеяч, вучоны-мовазнавец, акадэмік АН Беларусі. Стваральнік «Беларускай граматыкі для школаў».

**1949 г.** У савецкім канцлагеры загінуў Адам Станкевіч, нараджэнец вёскі Арляняты (Смаргонскі раён). Беларускі каталіцкі сьвятар, асьветнік, публіцыст, гісторык, выдавец, літаратуразнавец.

**30 лістапада**

**1427 г.** У Кракаве нарадзіўся Казімір Ягелончык (сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай), вялікі князь літоўскі.

**1745 г.** Нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касьцюшка, кіраўнік вызвольнага чыну 1794/95 гг., нацыянальны герой Беларусі, Польшчы, ЗША, Швайцарыі.

**1 сьнежня**

**1919 г.** Памёр Вандалін Шукевіч. Нараджэнец вёскі Нача (Воранаўскі раён), археолаг, антраполаг, этнограф і краязнавец.



**2 сьнежня**

**1879 г.** У Шчучыне нарадзіўся Фелікс Стацкевіч, палітычны дзеяч, выдавец, педагог, мемуарыст.

**3 сьнежня**



**1814 г.** Нарадзіўся Восіп Гашкевіч, дыпламат, вучоны-мовазнавец, натураліст. Першы консул Расейскай імперыі ў Японіі. Пэўны час жыў у маёнтку Малі (каля Астраўца).

**4 сьнежня**

**1943 г.** У Горадні нарадзілася Алена Валчэцкая, гімнастка. Чэмпіёнка Такійскай алімпіяды (1964 г.), неаднаразовая чэмпіёнка СССР, пераможца і прызёр міжнародных спаборніцтваў.

**5 сьнежня**

**1925 г.** У вёсцы Дзяляцічы на Наваградчыне нарадзіўся Віктар Шарэцкі, харамайстар і педагог.

**Падрыхтаваў Ул.ХІЛЬМАНОВІЧ.**

## КРЫЖАВАНКА

*Перакладзі на беларускую мову*

**Па гарызанталі:** 7.Свёрток. 8.Воздух. 12.Охапка. 13.Багрец. 14.Риск.15.Укус. 16.Опреснок. 19.Стая (волков). 22.Скорбь, печаль. 24.Навес, дровяной сарай. 26.Спасение. 2.Бубенчик. 28.Тоска, скука. 30.Известность. 32.Ожерелье. 33.Каратель. 34.Повестка. 36.Луч. 40.Багульник. 44.Жалоба. 45.Ловкость, Сноровка. 46.Подстожье. 47.Палисадник, цветник. 48.Вторник.

**Па вертыкалі:** 1.Озорник, шалун. 2.Печник, каменщик. 3.Кожевник. 4.Уважение. 5.Темота, мрак. 6.Завалинка. 9.Посиделки. 10.Кролик. 1.Ставня. 17.Обработка, отделка. 18.Усилие, старание. 20.Ботинок. 21.Опёнок. 23.Условие. 25.Аромат. 29.Василёк. 31.Направление. 35.Пахота. 37.Роспись стен. 38.Мечта. 39.Толпа. 41.Горбыль. 42.Тонкое сукно. 43.Хорёк.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗЬМЕШЧАНУЮ Ў ПАПЯРЭДНІМ НУМАРЫ:**

**Па гарызанталі:** 5.Салапяка. 6.Зваротак. 10.Узбраенне. 13.Разлік. 16.Спроба. 17.Пагорак. 18.Звычай. 19.Паліва. 23.Адбітак. 24.Савяня. 25.Скурка. 28.Наглядчык. 29.Лістапад. 30.Выкрутка.

**Па вертыкалі:** 1.Маладзік. 2.Пядзя. 3.Вапна. 4.Забабоны. 7.Цемрашальства. 8.Папрок. 9.Задаволенасць. 11.Пілаванне. 12.Справункі. 14.Пагарда. 15.Шарачак. 20.Даведнік. 21.Ліхвяр. 22.Вярэнька. 26.Малпа. 27.Тычка.

